Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 32(68) 9 - 15 жніўня 1996 года Цана свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Падзея тыдня

Беларуска-іранскія адносіны, асабліва эканамічныя, у апошні час значна актывізаваліся. Пра гэта сказаў прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір на перамовах з прыбыўшым у Мінск міністрам замежных спраў Ірана Алі Акбарам Велаяці. Вывучаліся магчымасці супрацоўніцтва ў абласцях стварэння магутнасцей цэлюлозна-папяровай прамысловасці, вытворчасці цэменту, зборкі на тэрыторыі Ірана беларускіх трактароў і самазвалаў. "Я не ўпэўнены, што ўсё гэта будзе ажыццёўлена, – заявіў наш прэм'ер-міністр, – таму што для пачатку рэалізацыі гэтых ідэй неабходна мець хаця б гандлёвае прадстаўніцтва, не кажучы ўжо аб пасольстве ў Іране".

Тым часам прэзідэнт ЗША Клінтан выступіў са зваротам да міжнароднага таварыства аб увядзенні эканамічных санкцый супраць дзяржаў, якія падтрымліваюць гандлёвыя зносіны з краінамі, што маюць дачыненне да тэрарызму (Іран і Лівія). Міністры "вялікай сямёркі" не ўключылі гэтую прапанову ў агульны план барацьбы з тэрарызмам, што не выключае магчымасці такіх дзеянняў з боку саміх ЗША.

Заява "сямёркі" вядучых партый Беларусі пачынае набываць канкрэтны сэнс. Ужо створаны аргкамітэт па правядзенню "круглага стала", які правёў першае пасяджэнне. Старшынёй аргкамітэта абраная сакратар Рады Аграрнай партыі Валянціна Свяцкая. Арганізатары плануюць запрасіць прэзідэнта, кіраўніка адміністрацыі, прэм'ер-міністра, старшынь Вярхоўнага Савета і Канстытуцыйнага суда, кіраўнікоў прафсаюзаў ("афіцыйных" і свабодных) і вытворцаў. З 36 існуючых у Беларусі партый да ўдзелу ў рабоце "круглага стала" будуць запрошаны прадстаўнікі тых 14, якія маюць дэпутатаў у Вярхоўным Савеце, а таксама члены "вялікай сямёркі" (БНФ і жаночая партыя "Надзея"). Канкрэтная дата правядзення, хутчэй за ўсё, другая палова жніўня, г. зн. да пачатку пасяджэння чарговай сесіі Вярхоўнага Савета.

Увагу прыцягнула таксама і інтэрв'ю ў "Звяздзе" з Леанідам Сечкам, дэпутатам Вярхоўнага Савета, які да апошняга часу выконваў абавязкі начальніка Службы кантролю прэзідэнта па Гомельскай вобласці і пакінуў гэтую пасаду ў сувязі з выбраннем яго сустаршынёй Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Ён прапанаваў наступнае.

У сувязі з тым, што ў грамадстве даўно існуюць сур'ёзныя рознагалоссі адносна сацыяльна-эканамічнай палітыкі прэзідэнта і яны праяўляюцца і ў вышэйшых эшалонах улады, дзяржава аб'ектыўна падышла да неабходнасці замены ўраду цяперашняга на кааліцыйны. Цікавым супадзеннем стала прыняцце адстаўкі прэзідэнтам РБ у намесніка прэм'ер-міністра Леаніда Сініцына і ў міністра эканомікі Георгія Бадзея. Толькі вось хто іх заменіць і ці зменіць гэта што-небудзь!

*Аляксандр УЛАДЗІН.*

## Адным абзацам

❑ Згодна з пастановай Прэзідыўма Вярхоўнага Савета, другая сесія парламента адкрыецца 2 верасня. У пераліку пытанняў, унесеных камісіямі ВС на разгляд сесіі, такія важныя заканадаўчыя акты, як праекты падатковага і банкаўскага кодэксаў.

❑ У Мінску адкрыта капліца-помнік, пабудаваная ў памяць загінуўшых у Афганістане воінаў.

❑ Пачалася атэстацыя старшыняў і адказных работнікаў гарадскіх і раённых выканкомаў. Першымі па крытэрыях адукацыі і культуры, здольнасці працаваць з калектывам былі праэкзаменаваныя чыноўнікі Міншчыны. Асноўная мэта атэстацыі – паляпшэнне падбору і расстаноўкі кадраў.

❑ У час нядаўняга наведвання раёнаў, пацярпелых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, прэзідэнт Беларусі заявіў, што існуючы парадак аплаты насельніцтвам камунальных паслуг на працягу бліжэйшага года значна не зменіцца. Цяпер насельніцтва аплачвае толькі 38 % кошту цеплавой энергіі. Давядзенне гэтага паказчыка да 50 % магчыма толькі пры ўмове кампенсацыі павялічаных плацяжоў.

❑ Федэрацыя прафсаюзаў накіравала А. Лукашэнку ліст з прапановай павелічэння з верасня памеру мінімальнай заработнай платы да 150 тысяч рублёў, тарыфнай стаўкі першага разраду – да 170 тысяч рублёў. Нагадаем, што лічбы, якія існуюць у цяперашні час, —100 тысяч рублёў і 110 тысяч рублёў адпаведна – былі ўстаноўленыя восем месяцаў таму.

❑ Гэтымі днямі прэзідэнт знаходзіцца ў Маскве па афіцыйнаму запрашэнню Б. Ельцына, каб удзельнічаць ва ўрачыстасцях з нагоды інаўгурацыі апошняга. Адбудуцца і рабочыя сустрэчы двух прэзідэнтаў.

❑ На пасяджэнні прадстаўнікоў амерыканскай гандлёвай палаты ў Мінску спікер Вярхоўнага Савета С. Шарэцкі паабяцаў амерыканскім інвестарам падтрымку заканадаўцаў. "Наша маладая суверэнная дзяржава ўзяла курс на развіццё рыначных адносінаў, дэмакратыя і рынак прыйшлі ў нашу краіну надоўга і ўсур'ёз", – з такімі словамі звярнуўся ён да замежных бізнесменаў.

❑ Прадстаўнікі амерыканскага знешнепалітычнага ведамства правялі сустрэчу з лідэрам БНФ З. Пазьняком і яго памочнікам С. Навумчыкам, каб выслухаць аргументы, якімі яны падмацоўваюць сваю просьбу аб прадастаўленні ім прыстанішча ў ЗША. Рашэнне аб гэтым будзе прынята службай іміграцыі і натуралізацыі ў бліжэйшы час.

❑ У Атланце завяршыліся XXVI Алімпійскія гульні. 162 беларускія спартсмены заваявалі 1 залаты, 6 сярэбраных, 8 бронзавых медалёў – усяго 15 узнагарод. Па гэтым паказчыку мы займаем месца побач з Вялікабрытаніяй. Праз чатыры гады лепшыя спартсмены свету зноў сустрэнуцца, на гэты раз у аўстралійскім горадзе Сіднеі.

❑ Створаны аргкамітэт па правядзенні трэцяга фестывалю славянскай пісьменнасці і культуры. На гэты раз ён завершыцца ў трэцюю нядзелю верасня ўрачыстасцямі ў старадаўнім Навагрудку.

❑ Учора ў Мінску прайшла прэм'ера фільма "Птушкі без гнёздаў" пра лёс ахвяры сталінскага рэжыму паэткі Ларысы Геніюш. Галоўную ролю сыграла актрыса Мінскага абласнога драмтэатра ў Маладзечне Таццяна Кавалеўская.

❑ З нагоды прафесійнага свята нашы сардэчныя віншаванні будаўнікам!

## Памылі "зорак"

*МАЛАДЗЕЧНА. З тым, што ў горадзе рэгулярна праводзяцца міжнародныя футбольныя сустрэчы, маладзечанцы неяк звыкліся. На гарадскім стадыёне амаль кожны тыдзень праходзяць матчы пад эгідай УЕФА, ФІФА.*

Вось і ў аўторак мы сачылі за гульнёй беларускіх і турэцкіх "зорак". Футбаліст — таксама чалавек, якому, акрамя павагі і народнай любві, патрэбна ежа і вада. З апошнім у горадзе праблема.

Не везці ж футбалістаў мыцца ў Мінск? Выйсце знайшлі. Турэцкую каманду павезлі ў лазню завода лёгкіх металаканструкцый. А мінчан — у вагоннае дэпо. Суддзяў, кажуць, мылі на прадпрыемстве электрасетак.

*Аддзел інфармацыі.*

### Не вер вачам сваім

У тытуле мінулага нумара "РГ" па віне друкарні "Перамога" дапушчана памылка. Нумар газеты і дата яе выхаду павінны былі чытацца наступным чынам: № 31 (67) 2—8 жніўня 1996 года.

*Рэдакцыя*

## Землякі!

*МАЛАДЗЕЧНА. Дыскабол Васіль Капцюг, дваццацідзевяцігадовы былы гараджанін, стаў бронзавым прызёрам Алімпіяды ў Атланце.*

Валерый Зенчык, брат спартсмена:

— Прыйшоў з грыбоў, жонка каля тэлевізара — Ваську паказваюць. На экране маленькі такі. А ў жыцці пад два метры. Мяне, старэйшага за яго на трынаццаць гадоў, быццам ляльку падкідвае на руках. Брат жыве і трэніруецца ў Мінску. З жонкай і сынам жыве ў дзвюхпакаёвай кватэры. Наязджае да нас, калі час мае. Бацькі, здаецца, ніколі са спортам асабліва не сябравалі. А я тым больш.

*Аддзел інфармацыі*

## Навіны

## Дэпутат – ён і ў Афрыцы дэпутат. А тым больш у Італіі.

*Пятнаццаць вілейскіх дзяцей з малазабяспечаных сем'яў на мінулым тыдні адбылі на адпачынак у Італію. Цэлы месяц школьнікі адпачнуць на ўзбярэжжы Міжземнага мора, стануць гасцямі італьянскіх сяброў.*

І, вядома, добрым словам успомняць пад сонцам Італіі дэпутата Вярхоўнага Савета Уладзіміра Варашніна, які стаў ініцыятарам гэтай паездкі. Арганізавала падарожжа абласное аддзяленне фонду міласэрнасці і здароўя.

*Аддзел інфармацыі.*

## Падлічы выдаткі на сабачку

*МАЛАДЗЕЧНА. Нядаўна гарвыканком распрацаваў палажэнне аб рэгістрацыі дамашніх жывёл у домакіраўніцтвах.*

За гэтую працэдуру аматар жывёл павінен выкласці мінімальную заработную плату. Штомесяц — мясцовы збор, велічыня якога прама прапарцыянальная росту сабакі. Калі ён невялікі — трэба заплаціць 0,2 "мінімалкі", больш буйныя абыдуцца ў 0,4. Акрамя таго, пры аплаце за камунальныя паслугі гаспадар сабакі па спецыяльна ўстаноўленым тарыфе будзе плаціць за газ, халодную і гарачую ваду, што расходуюцца для догляду за гадаванцам.

Памылкова думаць, што ўсе гаспадары братоў нашых меншых адразу кінуцца іх рэгістраваць. Аднак гарвыканком забараніў ветлячэбніцы абслугоўваць незарэгістраваных сабак. Акрамя таго, непаслухмяных гаспадароў будуць штрафаваць. Штраф, згодна з заканадаўствам, — 5 мінімальных зарплат. А калі сабака ўкусіў каго — 10.

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.*

## Знялі заснавальніка Саветаў

*ВАЛОЖЫН. Чвэрць стагоддзя прастаяў у вестыбюлі Дома Саветаў бюст У. Леніна.*

Да яго асобныя катэгорыі грамадзян у святы ўскладалі кветкі. І раптоўна бюст знік. Ветэраны, камуністы забілі трывогу. Прыватны вышук прывёў да Валянціна Малішэўскага, старшыні райвыканкома. У сваім пісьмовым адказе ён адзначыў, што ў Беларусі зарэгістравана каля трыццаці партый розных палітычных напрамкаў і даць перавагу сімвалу адной з іх у фае дзяржаўнай установы неправамерна.

*Аддзел інфармацыі*

## Смачныя радыенукліды

*Аўтобусы Вілейка-Маладзечна на прыпынках Даманава і Чарчонава апошнім часам амаль не спыняюцца — перапоўненыя, яны не могуць узяць усіх аматараў ягад і грыбоў.*

Па чарніцы ходзяць цэлымі атрадамі — побач аздараўленчыя летнікі для дзяцей "Івалга", "Аўтамабіліст", "Лясны гарадок".

Як паведаміў Міхаіл Міхалевіч, галоўны ўрач цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Вілейскага раёна, пры праверцы даманаўскіх і чарчонаўскіх грыбоў і ягад выяўлены выпадкі забруджвання радыенуклідамі. Таму з сабраным ураджаем абавязкова трэба звяртацца ў цэнтр. Для праверкі на забруджанасць дастаткова паўлітра грыбоў, ягад. Прычым усё вяртаецца гаспадару. Калі няма часу чакаць вынікаў аналізу — патэлефануйце і самі вырашыце, ужываць тыя ж белыя грыбы ў ежу, ці выкінуць іх на сметнік.

*Аддзел інфармацыі*



## Сіўка-Бурка ў штаце

*ВАЛОЖЫН. Конюх-возчык — новая штатная адзінка ў аптова-рознічным гандлёвым аб'яднанні.*

Утрымліваць сталёвага каня даражэй, ды і клапаціцца пра яго трэба больш. А вось сапраўдны жывы конь зручней. У любое надвор'е ён будзе перавозіць тавары і тару па гарадскіх маршрутах "халадзільнік — магазін", "магазін — база". Работнікі АРГА разлічваюць на каня і ў падвозцы прадуктаў для гандлю на гарадскім рынку.

*Аддзел інфармацыі.*

## З місіяй благавешчання

*Міжнародны Саюз хрысціянскай моладзі аб'ядноўвае вернікаў некалькіх рэлігійных канфесій. Цэнтр яго знаходзіцца ў Гамбургу, а каардынацыйныя пункты — у самых розных краінах. Уключыліся ў гэты рух і беларусы. Сувязь з цэнтрам сёння падтрымлівае ў Мінску Мікалай Бяка, у Маладзечне Мікалай Капцюг.*

У апошнія дні ліпеня з Прагі выехалі з рукзакамі за плячыма 9 юнакоў і дзяўчат, якія завуць сябе "Ten Sing" – каманда маладых, якія спяваюць. Творчасць, культура, Хрыстос – гэта тое, што іх аб'ядноўвае і што яны нясуць людзям. Першы прыпынак зрабілі ў Польшчы. Потым – Валожын, Маладзечна, Мінск.

Мікалай Капцюг, які распачаў у Маладзечне работу па аб'яднанні хрысціянскай моладзі і наладзіў сувязь з цэнтрам Саюза, лічыць, што гэтая справа можа мець тут цікавую будучыню:

– Ёсць шмат цудоўных задумак. Ёсць мясцовыя бізнесмены, якія згодны фінансаваць. Ёсць сябры за мяжой. І, у рэшце рэшт, ёсць вялікае жаданне рабіць справу, якая прыемная Богу, – кажа ён.

*Святлана Сарока*

## "На лёс не скардзімся..."

*МАЛАДЗЕЧНА. "Мы сёння адчуваем сябе досыць упэўнена, — гаворыць старшыня калгаса "Гарадзілава" Часлаў Астрэйка.*

– Мяркуйце самі: толькі за раннюю бульбу мы атрымалі каля двух мільярдаў рублёў. Купілі сёлета тры "Кіраўцы", тры "Беларусы", і сёння нашы прадстаўнікі павінны купіць "гусенік". Убралі каля палавіны збажыны, рыхтуем глебу пад будучы ўраджай. Хутка разлічымся з дзяржавай. З плану 500 тон зерня адгружана каля 400 тон. Людзі своечасова атрымліваюць зарплату. Ды і на рахунку свабодных грошай каля 400 мільёнаў."

Карацей кажучы, хто хоча і можа рабіць, – робіць. Хто не хоча – шукае прычыны.

*Алесь ЛІПСКІ.*

Сведчаць дакументы

# 1939-1941

## Хроніка злачынстваў

*Працяг. Пачатак у №№28-31.*

Вядомыя закатаваныя перад эвакуацыяй і ў яе дзень, згодна з думкай большасці вязняў, складаюць усяго ледзьве дзесятую частку ўсіх сапраўдных ахвяраў. Дае гэта 510 чалавек, з іх палітычных– 495.

Па дарозе замардавана, згодна з рапартам НКВД, 547 чалавек, з якіх палітычных будзе 536 чалавек.Дадаць належыць з пэўнай колькасці асоб з нявысветленым лёсам эвакуіраваных 400-450 жанчын– 95 чалавек.

Значыць, агульная колькасць непасрэдных ахвяраў вілейскага злачынства ў адносінах толькі палітычных вязняў складае мінімум 1510 асоб. Гэта– 40 працэнтаў усіх палітычных вязняў з Вілейкі. Вышэйпамянёная лічба, зразумела, не вычэрпвае ўсіх ахвяр.

Трэба памятаць, што з пакінутых жывымі 60 працэнтаў многія загінулі ў іншых турмах і лагерах, а немалая частка прыпадае на памерлых пасля таго, як іх выпусцілі на свабоду, з-за хвароб і бадзяння па розных калгасах, эвакапунктах і да т.п. Для знясіленых, хворых фізічна і псіхічна да рэшты смяротнасць складала самае меншае 50 працэнтаў. Вынікае з гэтага, што з агульнай лічбы пакінутых пры жыцці пасля эвакуацыі памерла да 1943 года яшчэ каля 1165 чалавек. Робім выснову– агульная колькасць ахвяр вілейскага злачынства складае мінімум 2675 чалавек, амаль 70 працэнтаў усіх так званых палітычных вязняў у Вілейцы, з нашай думкі: лепшых грамадзян дзяржавы.

На цяперашні час мы змаглі ўстанавіць, што толькі 174 чалавекі з агульнай колькасці эвакуіраваных з Вілейкі ў Расію засталіся пры жыцці і знаходзяцца па-за межамі СССР. Лёс астатніх 976, якіх маглі б уважаць за жывых, нам невядомы. Так, мабыць з гэтай лічбы не стане яшчэ многіх. Ці далічымся мы хаця б 20 працэнтаў усіх былых вязняў з Вілейкі?

### Масавыя забойствы на дарозе Вілейка-Барысаў

*Наступныя два дакументы, аб'яднаныя адной публікацыяй, узяты намі з кнігі ZBRODNIA KATYNSKA (Катыньскае злачынства), дзесятае выданне, выдавецтва "GRYF", Лондан, 1982 г., захоўваўліся ў архіве Польскіх замежных спраў у Лондане пад пазнакай L.H.-537 і dr H.E.- 112227. Наш чытач, магчыма знойдзе некаторыя паўторы з вышэй апублікаванага, або несупадзенне ў падачы некаторых звестак. Тут трэба мець на ўвазе, што крыніцы інфармацыі былі часам розныя, таксама трэба ўважаць на час збору гэтай інфармацыі. Але усё адно, карысным будзе прачытаць і гэтыя сведчанні, якія больш яскрава дапаўняюць усю жудаснасць таго, што адбывалася на дарозе Вілейка-Барысаў у чэрвеньскія дні 1941 года. Публікуем з некаторымі неістотнымі скарачэннямі.*

Да проста неверагодных памераў вырастае трагедыя, якая разыгралася на дарозе паміж Вілейкай і Барысавам. Шляхам тым гнана каля 1400 вязняў, эвакуіраваных з Вілейкі, гнана іх пад нямецкімі авіяналётамі ў непасрэднай блізкасці фронту.

Турма ў Вілейцы была запханая людзьмі, бо маскалі арыштоўвалі і саджалі да апошняга моманту перад нямецкай атакай.

25 чэрвеня 1941 года ў 15.30 у камеры ўвайшлі ахоўнікі і з аркуша, складзенага лекарам, прачыталі прозвішчы хворых і няздольных да маршу. Загадана ім застацца ў камерах.

Затым прачыталі прозвішчы тых, якія мелі самыя цяжкія абвінавачванні і іх таксама пакінулі ў камерах, іншым быў аддадзены загад неадкладна збірацца ў дарогу.

Каля 16-й гадзіны вывелі ўсіх вязняў на двор. З абвінавачаных толькі ў пераходзе граніцы стварылі асобную групу. Выклікана дадаткова было каля 20 вязняў і накіравана назад у камеры. Знамянальна, што сярод тых, каго пакінулі ў камерах, былі ўсе, скараныя на смерць,– каля 20 чалавек. Разам з іншымі засталіся асуджаныя да 10 або 8 год, хворыя, слабыя.

З моманту адпраўкі вязняў з турмы знята ахова, якая ўвайшла ў склад канвою. У вязніцы засталася толькі невялікая група энкавэдзістаў, несумненна прызначаная да расстрэлу тых, каго пакінулі ў камерах.

Што так з імі абышліся, гаворыць факт, што ў часе паходу на ўсход ніводнага вязня не пакінулі жывым на дарозе: хто быў слабым і не мог ісці, той гінуў ад кулі або штыха канваіраў. Канвой быў вельмі моцным, бо ў яго склад, апрача турэмнай аховы, увайшла міліцыя амаль з цэлай Віленскай акругі.

Ішлі цэлую ноч з 25 на 26 чэрвеня. Раніцай– пяцігадзінны адпачынак, затым– зноўку марш. 26 чэрвеня, пад вечар, канвой перайшоў польска-савецкую граніцу (граніца да 1939 года, каля вёсак Стайкі, Дунаі– **рэд.**) Былі чутны выбухі бомбаў. Над Мінскам узнеслася зарыва пажараў, якія пачаліся пасля налётаў нямецкіх бамбардзіроўшчыкаў.

*Працяг будзе.*

## Падарунак прэзідэнту ад партызана з вуліцы Партызанскай

*ВІЛЕЙКА. Ганне Аляксееўне Новік восемдзесят два гады. Значную частку жыцця "адбаярыла" за мужыкоў – была старшынёй калгаса, сельсавета, памочнікам начальніка МТС. Пазней рабіла на " больш жаночых" пасадах – у аддзеле адукацыі, мясцовай газеце. І ўвесь час пісала вершы. Апошнія радкі склала тры гады таму.*

Колькі напісана – дакладна не падлічыць. Недзе каля трох соцень твораў на польскай і беларускай мовах. Выдадзена некалькі зборнікаў з яе вершамі. Адзін з іх – "Мая Вілейшчына" – Ганна Аляксееўна даслала ў падарунак прэзідэнту Лукашэнку. Яшчэ адзін экземпляр – мітрапаліту Філарэту. Проста як чалавеку. Бо з рэлігіяй так і не наладзіліся адносіны. У школе вучылі духоўныя песні. Нават запісалі дзяўчыну Ганулю ў царкоўны хор, ды выкрэслілі – "Бог таленту не даў". Спачатку хрысцілася, як праваслаўная, потым стала каталічкай. Быў час, здароўем усё цікавіліся баптысты.

Сэнс жыцця Ганна Аляксееўна шукала ў барацьбе. У дваццаць трапіла за краты вілейскай турмы. Прысуд – 12 гадоў пазбаўлення волі за прапаганду аддзялення Заходняй Беларусі ад Польшчы – на крыжы чапляла чырвоныя сцягі.

У другую сусветную выратавала дваццаць яўрэяў. Праз пяцьдзесят гадоў грамадзянін Ізраіля рабіў запыт праз Чырвоны Крыж, ці жыве яшчэ тая жанчына з вёскі Воронічы, што зберагла яму жыццё.

...Былую партызанку пасялілі на вуліцу Партызанскую. У чыстую, утульную аднапакаёўку часцяком прыходзяць сацыяльныя, медыцынскія работнікі. Усе яны адзначаюць сціпласць жанчыны (за дзяржаўны кошт, да прыкладу, можна назапасіць бульбы, але Ганна Аляксееўна больш торбачкі не возьме – каб астатнім пенсіянерам-інвалідам хапіла).

У пакоі на паліцах шмат мастацкай літаратуры. Для паэткі ўсе аўтары любімыя: "Ні з кім не хачу спрачацца. Добрыя мастакі". У яе жыцці дастаткова было выпрабаванняў і страт – пахавала мужа, сына, перанесла два інсульты. Але не згасла жыццё ў вачах. Толькі баліць час ад часу хворае сэрца.

*"Ратуючы цябе,*
*я падаю на дно...*
*Даруй мне гэты грэх*
*святой сляпой любві.*
*Навошта мора мне*
*і сонца заадно,*
*Калі пакінуць*
*прыстань караблі".*

Так, жанчыне за восемдзесят, хварэе, адзінокая. І ўсё ж, здаецца, шчаслівая.

***Васіль САВІЦКІ.***

## Сектар "Мільён"

***Пяць год і восем месяцаў адседзела ў 50-я ў турме Настасся Цімафееўна Бычак, як дачка рэпрэсіраванага "кулака".***

Ёй было васемнаццаць, калі расстралялі бацьку, калі ў першы месяц зняволення памерла маці. Салаўкі, халодны барак, голад, хваробы - на яе долю ўсяго гэтага выпала спаўна. Можа, і выжыла толькі таму, што была маладая ды што падтрымлівалі добрыя людзі,- хто кавалачкам хлеба, хто спагадай.

Потым было вольнае пасяленне, замужжа за хлопцам з-пад Маладзечна, смерць траіх дзяцей ад інфекцыйных хвароб...

Бабуля Надзя, як клічуць гэтую дабрэйшую, бескарыслівую жанчыну ўсе знаёмыя, дажывае свой век у адзіноце ў Маладзечне. У 1991-м яе сям'ю рэабілітавалі. А яшчэ праз пяць год яна, адзіная, якая застался ў жывых з той вялікай сям'і, атрымала ад дзяржавы кампенсацыю за нанесены маральны і матэрыяльны ўрон - 1 мільён 200 тысяч рублёў. Палову гэтай сумы даслала пляменнікам у Крым. "Няхай і ім будзе памяць,"- кажа бабуля Надзя.

***Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.***

## Нацыянальнасць – стан душы: хачу быць яўрэем

*МАЛАДЗЕЧНА. Якую нацыянальнасць запішуць свайму дзіцяці бацька-беларус і маці-руская? А бацька-яўрэй і маці-беларуска?*

Яшчэ з дзесятак год таму адказ быў проціпеглы сённяшняму. Цяпер, найчасцей, яўрэем стаць выгадней. Вось таму гарадскі суд і разглядаў справу, дзе маці патрабавала прызнаць сваю дачку яўрэйкай (да таго яна была беларускай).

Згодна з "Палажэннем аб пашпартнай сістэме" (1974 г. – !) нацыянальнасць не мяняецца. Удакладненне яе ў кампетэнцыю суда не ўваходзіць. Але заканадаўства не вызначае, куды ўсё ж звяртацца чалавеку. У новым беларускім пашпарце нацыянальнасць наогул не пазначалі; цяпер жа і пашпарты "састарэлі".

Можна зразумець маці, якая імкнулася зрабіць як выгадней для дачкі. Але нацыянальнасцю гандляваць, мо, і не варта?

***Аддзел інфармацыі.***

## Лекі бываюць танныя

*МАЛАДЗЕЧНА. Сем фірменных аптэк мае старэйшае фармацэўтычнае прадпрыемства краіны "Белмедпрэпараты". Адна з іх размясцілася ў раёне завода парашковай металургіі. І хаця раён гэты аддалены ад цэнтра, аптэка карыстаецца папулярнасцю ў гараджан.*

Тут вялікі асартымент лекавых сродкаў, суправаджальных тавараў – усяго каля 700 найменняў і заўсёды можна знайсці прэпараты любога спектра дзеяння. Не кажучы ўжо пра аднаразовыя шпрыцы, сістэмы пералівання крыві.

Гандлёвая нацэнка толькі 10 %, у той час як у іншых аптэках яна даходзіць да 40 %. Так, напрыклад, упакоўка з 50 таблетак рыбаксіну тут каштуе 18200 рублёў, а ў іншых аптэках – больш за 23 тысячы. Дзіцячы сіроп парацэтамолу прадаецца за 8800 (імпартныя яго аналагі – 30-40 тысяч).

Адзінае "але" – установа не абслугоўвае па льготных рэцэптах. На гэта ў "Белмедпрэпаратаў" не хапае сродкаў, а ГТМА, па словах загадчыцы аптэкі Л. Піліповіч, дагавор з імі не заключыла.

***Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.***

## У даўжніках – дзяржпрадпрыемствы

*МАЛАДЗЕЧНА. 938 плацельшчыкаў падаткаў сёння падтрымліваюць фонд сацыяльнай абароны насельніцтва РБ. З іх – 113 прадпрымальнікі, 160 – дзяржаўныя прадпрыемствы.*

За паўгода маладзечанцы пералічылі ў абласны фонд амаль 60 млрд. руб.

Па інфармацыі з аддзела сацыяльнага забеспячэння, пенсіянеры горада атрымалі за паўгоддзе з абласнога фонду больш за 50 млрд. руб. пенсій. Каля 3 млрд. руб. выплачана матэрыяльнай дапамогі малазабяспечаным, частковага кошту пуцёвак у летнікі, санаторыі.

Барыс Карпіевіч, начальнік гарадскога аддзела фонду сацыяльнай абароны насельніцтва, называе 23,5 млрд. руб. пратэрмінаванай запазычанасці па падатках. Асноўную частку гэтай сумы завінаваціліся дзяржаўныя прадпрыемствы: завод "Спадарожнік" – 7,7 млрд. руб., АТ "Электрамодуль" – 5,2 млрд. руб., станказавод – 2,1 млрд. руб. Адсутнасць грошай на рахунках дзяржаўных прадпрыемстваў павялічвае запазычанасць з месяца ў месяц.

***Аддзел інфармацыі***

## Дзе ж ты, мая Суліко?

*МАЛАДЗЕЧНА. Амаль тыдзень пажарныя, міліцыя не могуць знайсці пацярпелую - трыццацігадовую жанчыну.*

У яе кватэры ў доме па Вялікім Гасцінцы ўзнік пажар. Суседзі забілі трывогу і выклікалі пажарных, але прыхожая згарэла поўнасцю.

Кватэра ніколі не зачыняецца, замок нават не працуе. Штатны вартаўнік кватэры - вецер. Тут радыя кожнаму, хто мае што выпіць ды закурыць. Ад цыгарэты, мяркуецца і ўзнік, пажар. Гаспадыня з чарговымі сябрамі дзесьці гастралюе, а жыхары наглядаюць за маёмасцю. Суседка ўсё ж такі.

***Аддзел інфармацыі.***

## Упершыню за два гады

*ВІЛЕЙКА. Два гады таму пачаў працаваць дзіцячы адукацыйна-аздараўленчы цэнтр "Надзея-XXI стагоддзе".*

Ён прымае на аздараўленне і лячэнне дзяцей з забруджаных радыенуклідамі раёнаў Гомельскай і Магілёўскай абласцей. Заснавальнікамі гэтага прадпрыемства сталі Міністэрства замежных спраў і нямецкі бок, а ініцыятарамі стварэння – Дзяржкамчарнобыль, германскі фонд "Жыццё пасля Чарнобыля" і Евангелісцкая царква Германіі.

Кожную змену тут адпачываюць 160 10-14-гадовых школьнікаў. Усе папярэднія змены дзеці навучаліся і адпачывалі на экалагічна чыстай тэрыторыі.

Сёлета ўпершыню адукацыйна-аздараўленчы цэнтр прыняў цэлую групу дзяцей, якія перанеслі аперацыі на шчытападобнай залозе.

***Аддзел інфармацыі.***

## Танцы да ўпаду

*МАЛАДЗЕЧНА. Днямі ў Доме культуры будаўнікоў прайшла вялікая дыскатэка.*

Моладзь танчыла пад запісы Леаніда Барценева, музыканта мясцовай групы "Рэактар". Арганізатар – студыя "Метраном" – запрасіла прыняць удзел у марафоне дуэт з Мінска "Ди Бронкс & Натали", кліп якога "Энергія кахання" на расійскім тэлебачанні вельмі папулярны.

Дыскатэкі з удзелам "зорак" будуць праходзіць рэгулярна.

***Аддзел інфармацыі***

## Ашмянскі спорт

### Жанчыну за перамогу

Маленькую статуэтку багіні Нікі атрымала мясцовая каманда за трэцяе месца ў Гродне на абласной галіновай спартакіядзе. Большых па памеры "жанчын" атрымалі супернікі за першае і другое месцы.

### Ветлівыя работнікі гандлю

Шаснаццаць каманд удзельнічалі ў адкрытым першынстве горада па міні-футболу. Акрамя спартсменаў устаноў, прадпрыемстваў, двароў спаборнічалі работнікі рынку і гандляры, якія ўтварылі каманду "Рынак". Ад каманды чакалі перамогі. "Рынак" заняў другое месца, прапусціўшы наперад міліцыю. Начальнік РАУС асабіста ўзнагародзіў кожнага свайго гульца гадзіннікам і крыштальнай вазай.

### У чэмпіёны ніколі не позна

55-гадовая Валянціна Лабуніна на першынстве вобласці сярод інвалідаў перамагла ў штурханні ядра і стала другой у кіданні кап'я. Узроставых катэгорый на першынстве не было.

***Аддзел інфармацыі.***

